


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

**Ліпень 2012 г.**

# МАГІЛЁЎСКІЯ ДЭМАКРАТЫ ПРЫМУЦЬ УДЗЕЛ У ВЫБАРЧАЙ КАМАПАНІІ




Магілёўская абласная кааліцыя дэмакратычных сіл разглядае абвешчаныя выбары ў Палату прадстаўнікоў як інфармацыйную кампанію і не верыць у тое, што выбары пройдуць свабодна і справядліва. Кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, вылучэнне якіх падтрымае абласная кааліцыя, павінны заклікаць выбаршчыкаў не ўдзельнічаць у галасаванні. Адпаведнае рашэнне прынята на пасяджэнні Каардынацыйнай рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл напрыканцы чэрвеня ў Магілёве.

Таксама сябры Каардынацыйнай рады заклікалі ўсіх грамадзян краіны і ўсіх жыхароў Магілёўскай вобласці, якія маюць права прыняць удзел у выбарах, не ўдзельнічаць у галасаванні і далучацца да дзейнасці дэмакратычных сіл Магілёўшчыны. Была прынятая заява, у якой прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый выказалі меркаванне, што ў Рэспубліцы Беларусь не створаны ўмовы для правядзення свабодных выбараў, таму маючыя адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу не могуць лічыцца дэмакратычнымі, празрыстымі і справядлівымі.

На пасяджэнні Каадынацыйнай рады было таксама прынятае рашэнне аб супольнай працы дэмакратычных кандыдатаў у розных выбарчых акругах. Ужо зараз у Магілёўскай вобласці гатовы вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 19 прэтэндэнтаў ад дэмакратычных партый: 5 – ад “Справядлівага свету” і па 7 чалавек ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі і партыі БНФ. Ужо бліжэйшым часам да іх павінны далучыцца прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў. Таксама у выбарах збіраюцца прыняць удзел і некалькі актывістаў кампаніі “Гавары праўду”. Нагадаем, што ўсяго ў Магілёўскай

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЗМАГАЦЦА З АЛКАГАЛІЗМАМ БУДУЦЬ ШЛЯХАМ ЗАБАРОНАЎ

Бялыніцкі райвыканкам прыняў рашэнне ў якасці эксперымента з 1 ліпеня па 1 жніўня ўвесці часовае абмежаванне па рэалізацыі прадпрыемствамі гандлю ўсіх формаў уласнасці пладова-ягадных вінаў і вінных напояў ў Бялынічах і на тэрыторыі Вішоўскага сельсавета. Акрамя гэтага кожную трэццюю суботу месяца ў раёне будуць праводзіцца “дні цвярозасці” з забаронай продажу алкагольнай, слабаалкагольнай прадукцыі і піва прадпрыемствамі рознічнага гандлю ўсіх формаў уласнасці.

Таксама райвыканкамаўскія чыноўнікі прынялі рашэнне забараніць продаж алкагольнай і слабаалкагольнай прадукцыі, за выключэннем піва, у летняй кавярні “Крыніца”.

Многія жыхары Бялыніч выказалі сваё адмоўнае стаўленне да абмежавальных мераў на продаж алкагольных напояў, уведзеных мясцовым райвыканкамам. Жыхар гарадскога пасёлка Генадзь, які сам з алкагольных напояў ужывае толькі піва, кажа: “З боку ўладаў гэта проста нейкая гульня ў змаганне “за здаровы лад жыцця”. Калі гэтыя віны і напоі такія шкодныя, дык няхай дзяржава забароніць іх выпуск. А так па тэлебачанні рэгулярна паказваюць навіны пра чарговыя поспехі беларускіх вінаробаў, якія прывозяць медалі з міжнародных конкурсаў за якасць сваіх напояў. Забароны ніякай карысці не прынясуць,

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЗМАГАЦЦА З АЛКАГАЛІЗМАМ БУДУЦЬ ШЛЯХАМ ЗАБАРОНАЎ




*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

пакутуючыя на алкагольную залежнасць людзі ў “дні цвярозасці” проста будуць піць сурагаты. Для пераадолення праблемы п’янства трэба стварыць народу нармальныя ўмовы жыцця, каб чалавек атрымліваў добры заробак за сваю працу і мог адпачыць, не эканомячы кожную капейку. А ці шмат месцаў для культурнага адпачынку ў нас у Бялынічах?”

Бялыніцкі раён з’яўляецца лідарам па спажыванні алкаголю ў Магілёўскай вобласці. За мінулы год узровень у раёне дасягнуў 18,9 літра на чалавека, пры тым, што ў сярэднім па вобласці гэты паказчык склаў 12 літраў. Рэалізацыяй алкаголю, алкагольных напояў і піва ў раёне займаюцца больш за 110 прадпрыемстваў гандлю розных формаў уласнасці.

Нагадаем, што крыху раней шматлікія абмежаванні на гандаль алкаголем былі ўведзеныя на тэрыторыі суседнега з Бялыніцкім Шклоўскага раёна. Па словах мясцовых жыхароў, вялікага эфекту ад гэтых забаронаў пакуль не назіраецца.

***Сяргей Семяновіч***

# МАГІЛЁЎСКІЯ ДЭМАКРАТЫ ПРЫМУЦЬ УДЗЕЛ У ВЫБАРЧАЙ КАМАПАНІІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

вобласці гатовы вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 19 прэтэндэнтаў ад дэмакратычных партый: 5 – ад “Справядлівага свету” і па 7 чалавек ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі і партыі БНФ. Ужо бліжэйшым часам да іх павінны далучыцца прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў. Таксама у выбарах збіраюцца прыняць удзел і некалькі актывістаў кампаніі “Гавары праўду”. Нагадаем, што ўсяго ў Магілёўскай вобласці створана 13 выбарчых акруг па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Каардынацыйная рада Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл бальшынёй галасоў прыняла рашэнне падтрымаць арганізацыюназірання на выбарах у парламент праз кампанію “За справядлівыя выбары”, а таксама вылучыць сваіх прадстаўнікоў у акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі.

“Мы разглядаем удзел у выбарах, у першую чаргу, як удзел у інфармацыйнай кампаніі, праз якую можна данесці да выбаршчыкаў праўду аб сапраўднай сітуацыі ў краіне, - кажа старшыня Каардынацыйнай рады кааліцыі Юрый Новікаў. – Пакуль не вызваленыя палітвязні і не ўнесены адпаведныя змены ў выбарчае заканадаўства, ніякай размовы аб паўнавартасным удзеле ў выбарах быць не можа. Нагадаю, што 5 сакавіка 2011 года дэмакратычныя сілы Магілёўшчыны на канферэнцыі прынялі рашэнне аб байкоце і мы гэта рашэнне павінны выконваць. Таму кандыдаты ў дэпутаты, якіх падтрымае кааліцыя, будуць агітаваць выбаршчыкаў не ўдзельнічаць у галасаванні”.

***Іван Барысаў***

# НАВОШТА СПЕЦСЛУЖБАМ УДЗЕЛ АПАЗІЦЫІ Ў ВЫБАРАХ?

Толькі прыхільнікі байкоту незалежныя ад КДБ, лічыць расійскі палітолаг Суздальцаў. Яго беларускія калегі называюць гэта “паляваннем на вядзьмарак”.

Уладзе выгадна, каб апазіцыя ўдзельнічала ў парламенцкіх выбарах. І яна возьме ў іх удзел. Такія “ўдзельнікі” працуюць на спецслужбы, — сцвярджае палітолаг Андрэй Суздальцаў. Еўрарадыё ўдакладняе: хто канкрэтна “супрацоўнічае” — палітычныя сілы, што вырашылі вылучаць сваіх кандыдатаў, лідары гэтых сіл ці актывісты, што пагадзіліся на вылучэнне? Уцямнага адказу палітолаг не дае.




Андрэй Суздальцаў: “Спецслужбы ж не фармуюць нейкія палітычныя рашэнні — яны ж дзейнічаюць у рамках пэўных калідораў. Яны могуць садзейнічаць узмацненню нейкіх працэсаў. Натуральна, што сярод працаўнікаў рэжыма ёсць і прыхільнікі байкоту, і прыхільнікі галасаваць. Выкарыстоўваючы партыйную структуру, выхады — дзе на кіраўніцтва партыі, дзе на заўважных актывістаў, дзе на простых актывістаў, але ўдзельнікаў з’ездаў, канферэнцый і ўсяго астатняга, тэндэнцыі, якія неабходныя сёння ўладзе, узмацняюць. У дадзеным выпадку спецслужбы ўзмацняюць жаданне часткі палітычнага актыву ў гэтых выбарах удзельнічаць”.

Палітолаг сцвярджае, што толькі прыхільнікі байкоту свабодныя ад уплыву спецслужбаў.

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі прызнае: пасля Плошчы, масавых рэпрэсій і прызнанняў ахвяр катаванняў, размах дзейнасці спецслужб уражвае. Але гэта не падстава распачынаць “паляванне на вядзьмарак”. Тым больш што праблем у апазіцыі і без гэтых паляванняў аж зашмат.

Аляксандр Класкоўскі: “Таму гэта проста невялікага розуму людзі, якія пачынаюць у межах гэтай кампаніі тую ці іншую тактыку адразу рабіць індыкатарам таго, здрадніцкая гэта ці не здрадніцкая пазіцыя”.

Былы падпалкоўнік КДБ Валерый Костка нічога страшнага ў тым, што сярод актывістаў апазіцыі ёсць “агенты”... не бачыць!

Валерый Костка: “Спецслужбы працуюць, толькі калі сітуацыя спакойная і падкантрольная. А калі пачынаюцца такія працэсы, як у Румыніі, Югаславіі, Іраку ці Лівіі, то спецслужбы ўжо не спрацоўваюць. І хай хоць кожны другі будзе негалосным супрацоўнікам, ён усё адно не вырашыць задачу дыктатарскай улады”.

Аналітык Юрый Шаўцоў моцна сумняецца ўжо ў тым, што ўлада зацікаўленая ва ўдзеле апазіцыі ў выбарах.

Юрый Шаўцоў: “Я з цяжкасцю магу ўявіць нават адну мажарытарную акругу, дзе нашы вядомыя апазіцыйныя актывісты маглі бы прайсці ў парламент. Можа, хто-небудзь мог бы прайсці як незалежны кандыдат, а потым праявіцца як апазіцыйны дэпутат у парламенце”.

Нават Віктар Івашкевіч, які бадай што першы пачаў заклікаць да бескампраміснага байкоту парламенцкіх выбараў, таксама асцерагаецца казаць, што ўдзельнікі выбараў працуюць на задуму спецслужбаў.

Адказ на пытанне, навошта ўладзе неабходны ўдзел апазіцыі ў выбарах, у Суздальцава таксама ёсць. Нібыта таму, што імітацыя палітычнай барацьбы за мандаты дае больш шанцаў на прызнанне новаабранага парламента ў свеце. Нагадаем, ад 1996 года парламент не меў гэтага прызнання.

***euroradio.fm***

## МІЛІЦЫЯ ЎЗЯЛАСЯ ЗА КАНОПЛІ

У межах аперацыі “Мак” у пяці раёнах Магілёўшчыны былі выяўлены і знішчаны плантацыі дзікарастучай расліны.

Каля вёскі Навасёлкі Бялыніцкага раёна было знішчана 33 кг каноплі, у лесе паблізу вуліцы 1-я Ўсходнняя ў Бялынічах - 27 кг, на вул. Кастрычніцкай у Крычаве - 30 кг, у Круглым - 2,1 кг, на вул. Энтузіястаў у Шклове - 6,5 кг і на вул. Магілёўскай у Шклове - 9 кг.

Дзікарастучыя каноплі прарасталі на плошчах ад 0,0001 да 0,016 га.

# НАВЕЯЛО...

Иногда интересно возвратиться в недавнее прошлое, в данном случае, в начало «лихих» 90-х, которые ознаменовались пустыми полками в магазинах, а зарплаты килограммовыми связками зайцев, волков и прочей лесной живности, разгулом вульгарного национализма, что не могло не пугать простых граждан. К 1994 году жизнь, поскрипывая, начала налаживаться. Именно этот момент временных трудностей мелкая коммуно-чиновничья аморальная рать, предав интересы страны и своего непотопляемого начальника В.Кебича, использовала для прорыва в высшие эшелоны власти страны. Основным тезисом их пропаганды стали популистские призывы к государству с человеческим лицом, к государству для простого человека. Шкловчане помнят, как Лукашенко обещал и требовал(!) отдать новое здание райисполкома детям!

Но что получилось на самом деле, мы тоже все помним!

После прихода к власти постепенно был реализован тезис «Кадры решают все». Вместо одного «вечного» зама председателя райисполкома – П.Ф. Лаптенка (кстати, до сих пор весьма уважаемого работника и специалиста) мы получили их бессчетное множество, имеющих соответствующие дивиденды от своей бурной деятельности. Так широко пропагандируемые неувядаемыми коммунистами (эти уж точно лучшими не стали) образование и здравоохранение за годы «народного» режима закономерно стали платными, а основная масса людей - бедными.

С приходом к власти уважаемого Александра Григорьевича в жизни белорусского народа проявилось новое явление, так не свойственное пролетарским лозунгам - это образование новой буржуазии – чисто спекулятивной, хищной, непроизводительной. Причем, главным образом, из рядов коммунистов, которые сколотили капиталы путём обмана, спекуляций, приватизации национальных богатств, до которых народ так и не был допущен.




18 лет ударного управления страной не могли для белорусского народа пройти бесследно. Экономика базируется на советских основных фондах и подачках более успешных соседей, сельское хозяйство традиционно неэффективное, огромные постоянно растущие государственные долги, за которые предстоит расплачиваться не только правнукам, а даже нынешнему поколению. Зарождавшееся народное предпринимательство умышленно уничтожается – в сельском хозяйстве Шкловского района из 108 фермерских хозяйств, организованных в начале 90-х годов сегодня функционирует только 38. Бесправный режим и система произвола тормозят возрождение экономики, порождают скорее потери, чем достижения.

Есть нечто символическое в злой шутке, которую история выкинула с коммунистами. Теперь они пытаются капитализм насадить собственными силами, но разве грабители могут стать организаторами эффективного хозяйства!? Более ушлые, которые своевременно вышли из партии, породили слой новой буржуазии и, по-прежнему, правят бал в Беларуси.

Власть стала режимом не без помощи беспринципной интеллигенции (опора режима при фальсификации выборов на учителей, медиков, работников бюджетных организаций), деклассированных рабочих, уголовных преступников и разного рода авантюристов, представляющих малый и средний бизнес и регулярно пополняющих исправительные учреждения из-за чувства вседозволенности на почве сопричастности.

Силовые структуры Беларуси, население которой за время правления Лукашенко уменьшилось на 1 млн. жителей, по непроверенным данным насчитывают до 400 000 боевых единиц. Печать, почта, телевидение, радио – в руках правительства. Отсюда понятно, почему правительство держится, несмотря на то, что немалая часть населения его ненавидит глубже и сильнее, чем старый, советский режим.

Реформация все эти годы шла под лозунгами свободы совести, прав человека, торжества разума. Объективный результат: преследование инакомыслящих, исчезновение знаковых

*(Начало. Продолж. на стр. 5)*

# НАВЕЯЛО…

*(Продолжение. Нач. на стр. 4)*

политических деятелей, запутанная бухгалтерия (никто в стране не знает истинного состояния экономики ввиду тотальной фальсификации всех данных), потеря доверия на фоне обнищания народа. Ложь правит балом – государственные СМИ миллионами экземпляров газет (в Интернете сильно не интересуются громкими победами белорусских «командиров»), титаническими усилиями идеологических отделов пытаются убедить в правильности избранной экономической политики «всенародно» избранного вождя. Получается не всегда.

Возьмем итоги работы Шкловского района за 1-й квартал 2012 года. Успехи неимоверные, а, значит, закономерные. Объем производства продукции возрос на 80%; практически все показатели улучшились в сельском хозяйстве (по-прежнему почему-то не дают данных по реализации молока) даже несмотря на пустующие животноводческие помещения из-за увода из оборота местными чиновниками бюджетных средств; экспорт увеличился на 13%; розничный товарооборот торговли стал больше на 16% к уровню прошлого года; платных услуг населению оказано на 45% больше; денежная выручка стала в 2,6 раза выше, а прибыль по району возросла в 5,4 раза.

Вот бы порадоваться народу за гигантские успехи, но…радоваться, собственно говоря, нечему и в среднем некому. Инвестиции в основной капитал вполовину меньше, объем строительно-монтажных работ уменьшился в 2,5 раза, объем инвестиций в жилищное строительство сократился в 5 раз, ввод в строй жилья – только 6% от задания и то все квартиры за счет населения, реальная заработная плата сократилась на 4,1%. «Ура» кричать таким горе-руководителям, что ли? Более того, смертность в районе по-прежнему превышает рождаемость, количество безработных увеличилось на 5,6% (впрочем, кто их считал?), разводы составляют 77% от зарегистрированных за квартал браков, уехало из района на 10 человек больше, чем прибыло. Как говорится, приехали. Кстати, за 1-й квартал в стране работало на 100 000 (!) человек меньше, чем в прошлом году, а это 5 таких городов, как Шклов.

Короче, работаем так, что над райисполкомом пыль благополучия столбом стоит - даже из Минска видно, куда самые пронырливые периодически отбывают поделиться опытом формирования из пыли показателей пули эффективности. Вот только от этого кругооборота чиновников рядовые шкловчане только беднеют на фоне вполне закономерного роста благосостояния отдельных приближенных и их челяди. На самом деле ни о какой эффективности экономики Шкловского района речи быть не может, если учесть, что главное предназначение государства - <u>это забота о росте благосостояния всех граждан.</u>

А может всё-таки всем обществом разобраться с ситуацией, а не горстке зарвавшихся чиновников, возомнивших себя вершителями судеб простых людей и всего государства? Что получили вместо духовного процветания – поголовное невежество, когда даже начальник отдела культуры вопрошает «а кто такой В.Быков»? А где повседневная практика применения национального языка? Выходит, что на концах дубинок деморализованных дебилов в черной форме, которым по силам лишь беззащитные пенсионеры и воспитанные студенты, имеющие наглость спросить: “А почему?”

Что, силовым структурам нечем заняться? Почитайте доклад полковника Пименова, в котором много интересного для рядового налогоплательщика. «За 3 месяца на территории района зарегистрировано 92 преступления, что на 8,2% больше, чем за аналогичный период прошлого года (2011 – 85). Лица, виновные в совершении преступлений, установлены в 67 случаях (раскрываемость – 73%). Возросло и количество преступлений, зарегистрированных по линии уголовного розыска, которых было совершено 67, из них 44 раскрыто (раскрываемость еще меньше – 66%).

*(Окончание на стр.6)*



# НАВЕЯЛО…

*(Окончание. Нач. на стр. 4-5)*

Значительно возросло количество преступлений, совершаемых в общественных местах, а также несовершеннолетними».

Не пора ли задаться вопросом, а немного ли шикарных иномарок стоит около Шкловского РОВД и не в этом ли причина роста преступности в районе? И это не ерничанье по поводу, ибо 8 строчек доклада (больше всего по категориям информации) посвящено… самогоноварению. Цитирую «В целях профилактики пьянства в первом квартале Шкловским РОВД выявлено 13 правонарушений, связанных с незаконным изготовлением и хранением самогона и самогонной браги, а также 4 факта реализации фальсифицированных алкогольных напитков. Изъято 1755 литров самогона и самогонной браги и 2347,6 литра фальсифицированных спиртных напитков. В лечебно-трудовые профилактории направлено 7 хронических алкоголиков». Победить самогон невозможно, народный промысел выжил при Сталине - выживет и при нынешних радетелях за деалкоголизацию населения. Но что-то не слышно, когда в Шклове посадили хоть одного убийцу-продавца фальсифицированного алкоголя. Видите ли, у наших правоохранительных органов полномочий недостает. Совести нет у милиционеров, как и недостает профессионализма, когда постфактум начинают расследовать дела, про которые месяцами говорят простые люди, окончательно потерявшие веру в правоохранителей.

Через пару дней грядет годовой праздник «Купалье в Александрии», на обеспечение безопасности веселящегося народа на котором будут брошены все милицейские силы районы. Деревни на ночь будут отданы во власть беснующимся дурачкам, которые с особым остервенением примутся уничтожать имущество пенсионеров и физически слабых граждан. А вот применение физической силы против негодяев чревато по закону наказанием за защиту своей собственности и чести. Будем надеяться, что руководство учтет данную ситуацию и охрана первого лица государства не скажется на уровне преступности в районе.

Милиция в перспективе будет работать лучше. «Шкловским РОВД и в дальнейшем будет проводиться работа по предупреждению и раскрытию преступлений, в том числе краж имущества всех форм собственности, однако, в данной деятельности необходимо более активное участие граждан, руководителей организаций и общественных организаций, формирование нетерпимости к бесхозяйственности». Вот так, им мало понастроили за наш счет кабинетов, так еще и народ может оказаться виноватым на фоне безделья и бездействия шкловских пинкертонов.

Западная Европа уже хлебанула от нашествия инородцев, подмявших национальную культуру многих стран, бесчисленными оскорблениями национального достоинства и ценностей породивших движение здорового национализма. Нельзя нашей стране опускаться до уровня «проходного двора», когда на улицах все чаще слышится китайская речь, а на наших полях работают аграрии, не понимающие ни русского, ни белорусского. Мы с гордостью заявляем, что противовоздушная оборона Беларуси работает на российские интересы, что наши войска входят в состав очередного оперативного формирования, что наши ракетчики на «отлично» отстрелялись на Аршулукском полигоне. Мы еще торгуемся, за какую цену купить в России артиллерийские




комплексы, чтобы Россию и охранять. Мы, вообще, про себя можем подумать во всю ответственность или так и будем обслуживать интересы россиян, китайцев, венесуэльцев и голландцев? Сколько можно реализовывать экономические модели чуждых нам культур и менталитета?

Все проходит и это пройдет. Национальное самосознание возьмет свое, приведет к закономерному финишу – построению демократического общества, в котором с народом будут советоваться, а не угрожать, будут его любить, а не пренебрегать его будущим, позволят изъясняться на родном языке, а не издеваться над национальными символами. Кстати, А.Лукашенко клялся в любви ко всему народу над «Погоней» (украшала трибуну) и под бело-красно-белым знаменем суверенного государства. Не стоит забывать и об этом.

***А.Стекловский***

# У КРУГЛЫМ ВЫСТУПАЮЦЬ СУПРАЦЬ ПРЫМУСОВАЙ ПРАЦЫ

Грамадская актывістка з гарадскога пасёлка Круглае Зінаіда Мілешчанка напісала зварот у мясцовы райвыканкам з просьбай патлумачыць, чаму ў Круглянскім раёне на пастаяннай аснове парушаецца працоўнае заканадаўства і супрацоўнікі бюджэтных устаноў без усялякай аплаты прыцягваюцца на разнастайныя брудныя працы.



“Да мяне звярнуліся за дапамогай цэлы шэраг супрацоўнікаў бюджэтнай сферы, якія скардзіліся на тое, што іх пастаянна адпраўляюць на разнастайныя брудныя работы, пры гэтым ніякай згоды ніхто ў іх не пытаецца, – распавядае Зінаіда Мілешчанка. – Прыбіраюць сметнішчы ў маланаселеных вёсках, наводзяць парадак на жывёлагадоўчых фермах і так далей. У арганізацыях нават створаны адмысловыя графікі выдзялення людзей на гэтыя прымусовыя работы. Акрамя гэтага ў раёне, па рашэнню райвыканкама, праведзена ўжо некалькі “дней бязвыплатнай працы”, калі людзі працуюць на сваіх працоўных месцах, а зробленыя імі сродкі пералічваюцца на адмысловы рахунак.

Калі да ўсяго гэтага дадаць разнастайныя суботнікі, атрымліваецца наогул нейкая жахлівая сітуацыя. На мінулым тыдні я напісала скаргу ў райвыканкам з просьбай патлумачыць, на аснове якога заканадаўства робяцца ўсе гэтыя прымусовыя і бязвыплатныя працы.

Атрымала зараз з Круглянскага райвыканкама нейкую дзіўную адпіску аб тым, што ніякіх скаргаў з боку працаўнікоў не паступала і што ўпаўнаважанымі органамі ажыццяўляліся праверкі выканання працоўнага заканадаўства і парушэнняў яны не знайшлі. Смех ды і толькі, па сутнасці нічога так і не адказалі, нават не ўказалі, хто і калі ажыццяўляў гэтыя праверкі. Складваецца ўражанне, што ў нас у Круглянскім раёне Працоўны кодэкс і іншыя беларускія законы проста не дзейнічаюць”.

Як кажа грамадская актывістка, раней яна ўжо звярталася у пракуратуру раёна з адпаведным зваротам:

“Супрацоўнікі пракуратуры пагадзіліся са мной, што парушэнні працоўнага заканадаўства сапраўды маюць месца, аднак таксама спасläліcь на тое, што людзі не скардзяцца. Дарэчы, якраз супрацоўнікі пракуратуры, міліцыі і райвыканкама да гэтых прымусовых прац не прыцягваюцца, бо добра ведаюць заканадаўства.

Ну а простых працаўнікоў эксплуатаваць прасцей. Людзі паміж сабой выказваюць скаргі, але адмаўляцца ад такой незаконнай працы не адважваюцца, баяцца згубіць сваю працу. Знайсці ж якую-небудзь іншую працу ў Круглянскім раёне, калі ты быў звольнены пасля канфлікту з кіраўніцтвам, практычна немагчыма”, – кажа Зінаіда Мілешчанка.

Зінаіда Мілешчанка актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычным жыцці Круглянскага раёна, яна з’яўляецца каардынатарам кампаніі “Гавары праўду” у гэтым рэгіёне, уваходзіць у склад партыі “Справядлівы Свет”. Зінаіда Уладзіміраўна карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод жыхароў Кругляншчыны, яна выбіралась дэпутатам Круглянскага райсавета, падчас апошніх выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў у 2010 годзе вылучалась кандыдатам у дэпутаты Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў.

Зараз круглянскія актывісты рыхтуюць зварот у Магілёўскі аблвыканкам з просьбай патлумачыць, згодна якіх беларускіх законаў у Круглянскім раёне на пастаяннай аснове выкарыстоўваецца прымусовая праца.

***Багдан Іваноў***

## ЦИФРЫ И ФАКТЫ

*Средняя зарплата в мае: 3 559 648 рублей*

*Минимальная зарплата в Беларуси: 1 047 550 рублей*

*Тарифная ставка первого разряда: 210 000 рублей*

*Бюджет прожиточного минимума: 743 020 рублей*

*Минимальный потребительский бюджет для семьи из четырех человек: 1 171 590 рублей*

*Базовая величина: 100 000 рублей*

## ЭКСПЕРТ: ЕСЛИ НАЦБАНК ВКЛЮЧИТ ПЕЧАТНЫЙ СТАНОК, МЫ ЭТО СРАЗУ УВИДИМ В РЕЗКОМ СКАЧКЕ КУРСА ДОЛЛАРА



“Как только для выплаты заработной платы начнут печататься деньги, курс доллара очень оперативно на это отреагирует”, - считает аналитик официального партнера АЛЬПАРИ в Минске Вадим Иосуб.

Поэтому, по мнению эксперта, сейчас можно говорить о том, что рост зарплат основан на соответствующем повышении производительности труда, а не обеспечен эмиссией.

“Об этом свидетельствует также и то, что несмотря на текущий рост, стоимость рубля к корзине валют продолжает укрепляться”, - сказал Иосуб в интервью сайту infobank.by.

Как писал UDF.BY, на прошлой неделе Александр Лукашенко поручил правительству в августе и октябре будут повысить тарифные ставки первого разряда. Это значит, что зарплаты работников бюджетных организаций, которые относятся к непроизводственной сфере, также дважды вырастут.

Откуда в бюджете возьмутся для этого средства, эксперт затруднился ответить:

“Сейчас об этом сложно судить. С одной стороны, со второй половины текущего года начнутся крупные выплаты по долгам. С другой стороны, с выполнением бюджета и торговым балансом в стране не так плохо, золотовалютные резервы также растут. Можно с уверенностью сказать только одно: если будут какие-то эмиссионные источники роста заработных плат, мы это сразу увидим в резком скачке курса доллара и спроса на него. При этом реакция будет незамедлительной: курс вырастет буквально в течение месяца”.

***InfoBank.by***

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБВЯСЦІЎ СЫНА КОЛЮ СВАІМ ПЕРАЕМНІКАМ



*Мікалай Лукашэнка*

Гэта адбылося падчас візіту беларускага кіраўніка ў Венесуэлу, паведамляюць СМІ.

На сустрэчы Лукашэнка адзначыў што ў Беларусі і Венесуэлы ёсць магчымасці для нарошчвання адносінаў. “Некаторыя пачалі сумнявацца ў сур’ёзных перспектывах супрацоўніцтва Беларусі і Венесуэлы, тут знаходзіцца мой сын Мікалай, і гэта гаворыць пра тое, што мы ўсур’ёз і надоўга заклалі асновы супрацоўніцтва, і ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20-25".

Як паведамляе БЕЛТА, вайсковы аркестр Венесуэлы выканаў дзяржаўны гімн Беларусі, пры гэтым праспяваўшы яго па-беларуску.

***euroradio.fm***

## САМУЮ БОЛЬШУЮ ЗАРПЛАТУ ПОЛУЧАЮТ В БОБРУЙСКЕ

Средняя зарплата по Могилевской области достигла Br3,258 млн. Такие цифры озвучил могилевским журналистам первый заместитель председателя комитета по труду, занятости и социальной защите Могилевского облисполкома Александр Крикунов.

Причем самые высокие зарплаты даже не в областном центре, а в Бобруйске: более Br3,6 млн. Александр Крикунов объяснил такое завидное превосходство наличием в городе на Березине множества экономически эффективных предприятий, в списке которых – ОАО «Белшина» со средней зарплатой более Br6 млн.

Среди районов лидер по зарплате – Костюковичский – здесь зарабатывают в среднем около Br3,5 млн. Между тем, среднее денежное вознаграждение за труд по всему региону к декабрю текущего года прогнозируется в размере не менее Br4 млн.

## АВАРИЯ В ШКЛОВЕ

В Шкловском районе 24-летний житель г.п. Круглое, управляя грузовой автомашиной «МАЗ» по автодороге Борки – Староселье – Хатьково, вблизи деревни Староселье не справился с управлением, съехал в кювет и опрокинулся. В результате ДТП водитель и проезжавший с ним в качестве пассажира 21-летний житель г.п. Круглое получили телесные повреждения, с которыми они были госпитализированы.

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: Магілёўская воб, Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-110. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Барысаў Іван Віктаравіч. Падпісана ў друк 04.07.2012 г. у 19 -00